**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

*Са святам Нараджэння Хрыстова!*

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№ 01 (822) 7 студзеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**
















## Першыя білеты на канцэрты "Славянскага базару-2016" паступяць у продаж ужо ў лютым

**Першыя білеты на канцэрты XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску-2016" паступяць у продаж ужо ў лютым, паведаміў карэспандэнту БелТА дырэктар форуму Аляксандр Сідарэнка.**

*"Год культуры, які аб'яўлены ў Беларусі, у Віцебску будзе асабліва насычаны. Ён пачнецца са святкавання 65-годдзя Цэнтра культуры "Віцебск" ужо ў студзені: запланаваны вялікі канцэрт-віншаванне, выстаўка-прэзентацыя ўсіх калектываў цэнтра. І мы ўжо даўно вядзём падрыхтоўку да правядзення юбілейнага 25-га "Славянскага базару". Літаральна паўтара тыдня таму вызначыліся са стылем. І ў сярэдзіне лютага, думаю, у продаж паступяць білеты больш як на палавіну фестывальных канцэртаў"*, - растлумачыў Аляксандр Сідарэнка.

Юбілей форуму будзе адзначаны шэрагам новых праектаў, у асноўным маладзёжных, і падзеямі, якія палюбіліся публіцы. Напрыклад, уключаны ў праграму канцэрт "Еўропа плюс ТБ", які на фестывалі ў 2015 годзе прайшоў з аншлагам. Сваё развіццё атрымае і фестываль вулічнага мастацтва "На сямі вятрах". Запланаваны канцэрт лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў розных гадоў. На форум мастацтваў у Віцебск прыедуць і новыя зоркі сусветнай велічыні, і даўнія сябры, уключаючы лаўрэатаў спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі "Праз мастацтва - да міру і ўзаемаразумення". Хто не зможа прысутнічаць асабіста павіншуе фестываль праз відэапасланне.

Паводле слоў Аляксандра Сідарэнкі, геаграфія ўдзельнікаў абяцае быць вельмі шырокай, колькасць краін будзе не меншай, чым у мінулым годзе.

***Кацярына Князева - БЕЛТА.***









ISSN 2077-8023



## Браслаўскі раён

# Не губляць давер людзей

■ Станіслаў Раманчук.

**Няпростая апошнім часам сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Віцебскай вобласці паранейшаму асабліва турбуе кіраўніцтва краіны, дзе да таго ж не створаны рэзерв добрых кадраў.**

Не ўдалося с ходу справіцца з існаваўшымі праблемамі і новаму 38-гадоваму главе Браслаўскага раёна Уладзіміру Дранеўскаму, якога прызначылі ў пачатку 2015 года кіраваць азёрным краем з пасады дырэктара Чашніцкага райкамунгаса. Зусім невыпадкова гэты рэгіён апынуўся ў цэнтры ўвагі кантрольных органаў, бо адтуль было шмат зваротаў грамадзян. Летась Браслаўшчыну з рабочым візітам наведала спачатку намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Беларусі Раіса Саўрыцкая. У пачатку снежня пільна праверылі мясцовае райпо і паўсюдна знайшлі розныя парушэнні, а ў канцы года ў Браславе пабываў і глава гэтага ведамства Леанід Анфімаў. Абстаноўку ў раёне нармальнай ніхто не назаве, а цяжкасцей толькі прыбавілася. За кароткі тэрмін у райвыканкаме замянілі нават трое намеснікаў старшыні райвыканкама, пазбавіліся пасад і шэраг кіраўнікоў іншага рангу, спецыялістаў. Сам падаў у адстаўку дырэктар моцнай гаспадаркі "Відзаўскі", дзе не было такіх праблем, як у суседняй "Новай Гвардыі" з даўгамі па паўгода па вартай жалю зарплаце. Увогуле, заробкі ў раёне ў вяскоўцаў вельмі нізкія, спецыялістаў не хапае, такі калгас як "Бярозавы гай" некалькі месяцаў заставаўся без кіраўніка. Незадавальненне гараджан толькі вырасла, калі ў раёне з пачатку вясны сталі праводзіцца рэгулярныя суботнікі. Работнікі мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый былі абавязаны ў "добраахвотным" парадку па выхадных наводзіць парадкі на запушчаных фермах і мехдварах, яны нават напярэдадні калядных святаў збіралі камяні на палях.

## Пастаўскі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Кастусь Александровіч

**У складаных умовах апынуліся цяпер многія вытворцы ў глыбінцы, а выжываюць і нават развіваюцца нямногія з іх.**

Да ліку такіх адносіцца і калектыў ААТ "Паставымэбля", які з добрым настроем напярэдадні Новага года адзначаў у мясцовым Палацы культуры 35-годдзе сваёй дзейнасці. Калісьці гэта прадпрыемства было адзіным на прасторах СССР, хто выпускаў школьную і вучэбную мэблю з абсталяваннем. З прыходам сюды 10 гадоў назад новага маладога дырэктара Сяргея Зямчонка мясцовыя мебельшчыкі не толькі пераадолелі крызіс у галіне, але і нарасцілі аб'ёмы вытворчасці. Толькі летась пастаўчане распрацавалі звыш 20 відаў новай прадукцыі, сталі прадаваць сваю мэблю і ў Расію, Латвію і Казахстан, ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. На працягу года яны адкрылі яшчэ 4 свае фірменныя магазіны і цэнтры продаж у Мінску, Маладзечне, Віцебску, а найбольш запатрабаванымі сталі наборы рознай мэблі ў пасёлку атамшчыкаў Астраўцы. Попыт на іх мэблю існуе таму, што праведзена мадэрнізацыя вытворчасці, знізіліся затраты. У выніку патаннелі напалову вучнёўскія крэслы і лаўкі-трансформеры, наборы мэблі для спальні, канапы розных мадыфікацый, мэбля для дачнікаў. Вялікай папулярнасцю ў пакупнікоў карыстаюцца наборы кухоннай мэблі "Пастаўчанка". За сучасны стыль, высокую якасць завадчане штогод прывозяць дамоў дыпломы і медалі з міжнародных выстаў і спецыялізаваных лесабудаўнічых ярмарак. Дызайнеры прадпрыемства зараз пачалі працу ў супрацоўніцтве з нямецкімі партнёрамі над выпускам сучасных крэслаў на металакаркасе.

## Віцебская вобласць

# Без віны вінаватая?

■ Чэслаў Якубовіч.

**У цяперашняй Беларусі быць кіраўніком рознага рангу вельмі няпроста і не толькі з-за павышаных перагрузак на працы.**

Па розных прычынах упраўленцаў могуць пазбавіць пасады, а таксама абвінаваціць у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, як гэта здарылася з былым гендырэктарам Віцебскай бройлернай, а таксама сенатарам Савета Рэспублікі Ганнай Шарэйкай. Яе арыштавалі яшчэ напрыканцы лета 2014 года і толькі нядаўна следства па нібыта гучнай карупцыйнай справе закончылі, а сабраныя матэрыялы перадалі на разгляд у Вярхоўны суд Беларусі. Што цікава, калі гэта энергічная і дзелавая жанчына ўзначальвала свой калектыў, якому яна прысвяціла ўсё жыццё, то фабрыка працавала эфектыўна і атрымала ў той год нават 15 млн. долараў чыстага прыбытку. Аднак пасля таго, як вядомы кіраўнік і дэпутат верхняй палаты беларускага парламента апынулася за кратамі, вытворчыя паказчыкі птушкафабрыкі, якую пакупнікі ведаюць па гандлёвай марцы "Ганна", рэзка пайшлі на спад. У наступным 2015 годзе паспяховае раней прадпрыемства перайшло ў лік праблемных і стратных. Між тым, былога дырэктара абвінавачваюць як раз у тым, што яна ўмешвалася ў дзейнасць тэндарнай камісіі і закупляла дабаўкі ў корм па больш высокай цане ў прыватнікаў, чым прапаноўвалі дзяржаўныя айчынныя вытворцы. Як вынікае, паўсядзённае жыццё прадэманстравала, хто быў правы і болей "хварэў" за эфектыўнасць гаспадарання. На жаль, у дырэктыўнай эканоміцы дзейнічаюць болей па загадах зверху, а хто працуе самастойна і з галавой, у любы момант можа апынуцца ў турме…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 07.01.16 | | | | Пятніца 08.01.16 | | | | Субота 09.01.16 | | | | Нядзеля 10.01.16 | | | | Пан. 11.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -16 | -18 | -13 | -15 | -17 | -19 | -14 | -15 | -14 | -13 | -8 | -8 | -9 | -10 | -7 | -7 | -7 | -8 | -4 |
| Ціск | 743 | 742 | 742 | 742 | 742 | 743 | 742 | 741 | 741 | 740 | 741 | 742 | 743 | 743 | 742 | 740 | 736 | 733 | 732 |
| Вецер м/сек | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 6 | 6 | 3 |
| | Ю | В | В | В | В | В | Ю-В | Ю-В | Ю | Ю | Ю | Ю-З | Ю-З | Ю | Ю | Ю-В | В | Ю-В | Ю |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 87 | 98 | 99 | 96 | 88 | 96 | 96 | 96 | 93 | 97 | 97 | 95 | 91 | 95 | 97 | 97 | 95 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСІ ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНА ДЫСТАНЦЫРАВАЦЦА АД ГЕАПАЛІТЫЧНЫХ АВАНТУР КРАМЛЯ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Расія застанецца нашым партнёрам і сябрам, аднак мы не абавязаны падтрымліваць яе неабдуманыя імперскія замашкі. Беларусам не патрэбна ўцягванне ў новае супрацьстаянне на мяжы новай "халоднай вайны"**

Другі год запар ніводны беларускі тэлеканал не паказаў навагодняе віншаванне расійскага кіраўніка з проста шалёным узроўнем папулярнасці сярод расіян. Мяне гэты факт, шчыра кажучы, нават узрадаваў, як і тое, што ў пачатку гэтага года саюзны нам Казахстан узяў і практычна элегантна абрэзаў трансляцыі ілжывых і прапагандысцкіх расійскіх дзяржаўных тэлеканалаў. Справа ў тым, што крамлёўскі палкоўнік Пуцін, з раскручаным вобразам "крутога лідара, мужчыны мачо" раней мог дазволіць сабе сцвярджаць аб казахах, як нібыта непаўнацэннай нацыі, не меўшай сваёй дзяржаўнасці.

Днямі ўладар галоўнага крамлёўскага кабінета зноў агучыў публічна свой любімы тэзіс аб тым, што няма ніякага 45-мільённага ўкраінскага народа, а ёсць, нібыта, адзін рускі. Што ж тады гаварыць пра нас, беларусаў і пра нашу невялікую па памерах і колькасці насельніцтва краіну, якую ўцягнула, будзем казаць прама, услед за сабой у самы сур'ёзны крызіс менавіта пуцінская палітыка. Цяпер ужо нават галоўная беларуская газета "СБ. Беларусь сегодня" адкрыта піша пра гэта, як і пра тое, што менавіта Расія " впервые за много лет совершила акт отторжения территории у другого суверенного государства (Украины), а также, по мнению многих, продолжает ставить под вопрос территориальную целостность этого государства".

Можна цалкам пагадзіцца з пазіцыяй нашай знакамітай суайчынніцы, нобелеўскім лаўрэатам Святланай Алексіевіч, якая прама заявіла, што большасць рускіх не ўспрымаюць Беларусь сур'ёзна. Вось чаму падчас нядаўняга афіцыйнага візіта А. Лукашэнкі ў Маскву беларускага прэзідэнта па сутнасці зняважылі, бо яго сустракаў у аэрапорце нават не міністр, а толькі адзін з уплывовых чыноўнікаў расійскага МЗС. Па дыпламатычнаму пратаколу ў такім выпадку госця з другой краіны, да таго ж блізкай і сяброўскай, павінен быў сустрэць калі не сам Пуцін, то расійскі прэм'ер-міністр Мядзведзеў. Апошнім часам расійска-беларускія адносіны істотна пагоршыліся, існуюць нават пэўныя рознагалоссі паміж дзвюма дзяржавамі па міжнародных пытаннях. Крамлю не падабаецца пацяпленне адносін афіцыйнага Мінска з Захадам, а рашучая адмова ад размяшчэння на беларускай зямлі рускай ваеннай авіябазы выклікала глухое абурэнне Масквы. Вось чаму была адменена раптоўна сустрэча Пуціна з Лукашэнкам, потым іх перамовы завяршыліся фактычна нічым, а на снежаньскім саміце АДКБ і ЕАЭС ужо іх новай двухбаковай сустрэчы не было. Цэлы 2015 год Крэмль "марынаваў" праз кантраліруемы ім фонд ЕўразЭС выдзяленне нам стабілізацыйнага крэдыту ў суме 3 млрд. долараў.

Імперскія амбіцыі нашых суседзяў усё болей разыходзяцца з нашымі практычнымі інтарэсамі. Наш асноўны гандлёвы партнёр Расія сур'ёзна "прасела", па росту цэн яна нас ужо абагнала, расійская казна пасля абвастрэння адносін з Турцыяй яшчэ больш імкліва худзее на вачах. За год сваёй дзейнасці Еўразійскі эканамічны саюз, куды далучыліся яшчэ два даволі бедныя члены Арменія і Кыргыстан, прадэманстраваў сваю неэфектыўнасць, бо ўзровень узаемнага гандлю ўнутры ЕАЭС зменшыўся больш чым на трэць.

А сёлета ўжо на афіцыйным ўзроўні ў нас адкрыта гавораць, што наступны 2016 год будзе такі ж цяжкі, а можа і нават яшчэ больш складаны, чым папярэдні. Беларусі прыйдзецца сур'ёзна заняцца сваёй эканомікай і пры гэтым таксама змяншаць вялікую залежнасць ад асноўнага рынка збыту сваёй прадукцыі фактычна ў адной краіне – Расіі. Сёлета ў пачатку студзеня таксама пачало дзейнічаць пагадненне аб зоне свабоднага гандлю суседняй Украіны з Еўрасаюзам.

Глава Беларусі з гэтай нагоды на нядаўняй сустрэчы ў Маскве дзяржаў Еўразійскага эканамічнага саюза вымушаны быў раздзяліць і сваю заклапочанасць з пазіцыяй расійскіх улад, што еўрапейскія тавары праз Украіну пацякуць на постсавецкія прасторы. Аднак, што характэрна, як і па турэцкаму канфлікту, Беларусь з Казахстанам Крэмль не падтрымалі і ў гэтым пытанні, бо свая рубашка бліжэй да цела і навошта нам з казахамі страчваць важны ўкраінскі рынак. Ва ўсялякім разе, як паведаміў беларускі прэзідэнт, Мінск з Астаной узялі паўзу, на працягу 1-га квартала яны будуць вывучаць гэта пытанне. Сапраўды, навошта беларусам уцягвацца ў бясконцыя гандлёвыя і не толькі войны Расіі па ўсяму свету?

Нездарма нядаўна беларускі прэм'ер-міністр А. Кабякоў у Стамбуле казаў аб нашым жаданні зрабіць Турцыю ключавым плацдармам для дыверсіфікацыі беларускага экспарту. Беларусы будуць дурнямі, калі з выгадай для сябе не разыграюць украінскую, а цяпер і турэцкую карты. Пры садзеянні Азербайджана да нас могуць прыйсці турэцкі бізнас і інвестыцыі, беларуская сталіца можа стаць новай пляцоўкай для перамоў па руска-турэцкаму канфлікту. Беларусі навошта порцыі адносіны са 100-мільённай і даволі развітай дзяржавай Турцыяй? Суседзяў, як вядома, не выбіраюць. Расія застанецца нашым партнёрам і сябрам, аднак мы не абавязаны падтрымліваць яе неабдуманыя імперскія замашкі. Беларусам не патрэбна ўцягванне ў новае супрацьстаянне на мяжы новай "халоднай вайны", а рускім прыйшла пара гэта зразумець.

## Дзень за днём

**Сусветны банк спрагназаваў, што сёлета прадоўжыцца рэцэсія эканомікі Беларусі, спад ВУП будзе 0,5%, вырасце беспрацоўе. З дзяржбюджэта забралі 4 трлн. рублёў для выратавання засакрэчаных прадпрыемстваў. Першы год членства ў ЕАЭС прынёс беларусам няшмат дывідэнтаў, а яшчэ болей – расчараванняў. На расійскіх прасторах аб'явілі вайну айчынным яблыкам і грыбам. Беларусь купіла ў Расіі 4 дывізіёны (48 пускавых установак) ракетных комплексаў С-300ПС. Летнія канікулы не будуць скарачаць. У многіх рэгіёнах краіны зафіксавалі новыя рэкорды цяпла пасярод зімы.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Б.Абама прадэманстраваў салідарнасць з ЕС і павялічыў санкцыі супраць Расіі, яны найперш ударылі па расійскай абароцы і перакрылі каналы абыходу санкцый.

**Турцыя.** Прэзідэнт Р.Эрдаган абвінаваціў Пуціна ў хлусні пра трагедыю Сірыі, дзе рэжым Асада з паплечнікамі забіў 400 тысяч грамадзян, за што адкажуць перад гісторыяй.

**Сірыя.** Праваабарончая арганізацыя "Amnesti International" назвала "ваеннымі злачынствамі" удары з паветра авіяцыі Расіі па жылым раёнам, дзе не было баевікоў ІГІЛ.

**Бельгія.** ЕС абвінаваціў Расію, што яна на трохбаковых перамовах па пагадненню аб свабодным гандлі паміж Еўрасаюзам і Украінай не хацела шукаць выгадныя кампрамісы.

**Расія.** Былы міністр фінансаў РФ А.Кудрын паведаміў, што расійская эканоміка яшчэ не дасягнула дна падзення, будзе пагаршэнне сітуацыі ў краіне з-за зніжэння цэн на нафту.

**Ірак.** Баявыя атрады сірыйскіх курдаў адбілі ў ісламістаў ІГІЛ захоплены імі горад Цікрыт, буйны НПЗ, курды сталі кантраляваць практычна ўсе землі, дзе яны жылі.

**Азербайджан.** Міжнародныя эксперты назвалі манат горшай нацвалютай у свеце 2015 года пасля двух дэвальвацый амаль на 100%, у краіне рэзка выраслі цэны на тавары.

**Расія.** Супрацоўнікам спецслужб дазволілі страляць на масавых акцыях, глава КПРФ Г.Зюганаў радасна прызнаў, што ў краіну вярнулася сталінская вясна, ранейшыя парадкі.

**Германія.** Пасля выяўлення фінансавых махінацый на 10 млрд. USD з рускімі багацеямі Deutsche Bank закрыў усе свае афшорныя інвестыцыйныя аперацыі ў Расіі.

**Грузія.** Глава Генштаба В. Капанадзэ папярэдзіў, што размяшчэнне РФ ракетных комплексаў "Іскандэр" у Паўднёвай Асеціі нясе пагрозу краіне, але найперш – для Турцыі.

**Ірак.** У выніку спецаперацыі спецназ ЗША захапіў жывымі ў правінцыі Кіркук двух палявых камандзіраў і аднаго з лідараў "Ісламскай дзяржавы" – чачэнца аш-Шышані.

**Англія.** Экс-глава ЮКАСа М. Хадаркоўскі заявіў, што яго не турбуе завочны арышт у Расіі, якая звар'яцела на вачах і дзе непазбежна будзе сацыяльная рэвалюцыя.

**Польшча.** Нягледзячы на шматлікія акцыі пратэсту, рэакцыю ЕС, прэзідэнт А. Дуда падпісаў змены ў законе, якія абмяжоўваюць паўнамоцтвы Канстытуцыйнага Трыбунала.

**Расія.** Падчас судовага працэсу экспертыза даказала невінаватасць украінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка, якую баевікі затрымалі, адвезлі ў Луганск да гібелі журналістаў РФ.

**Японія.** Урад краіны ўрэгуляваў даўнюю гістарычную спрэчку з Карэяй і прызнаў адказнасць за масавыя сексуальныя гвалты над жанчынамі падчас ІІ Сусветнай вайны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусь не абавязана, як заявіла галоўная газета краіны "СБ. Беларусь сегодня", уцягвацца ў міжнародные супрацьстаянне і канфлікты, якія развязвае цяпер Расія.

**Гродна.** Павышэнне пенсійнага ўзросту ў Беларусі, як пацвердзіла віцэ-прэм'ер урада Н. Качанава, у будучым непазбежнае, але ён будзе павышацца з улікам меркаванняў людзей.

**Мінск**. Упершыню А. Лукашэнка абвінаваціў суседзяў, што яны навараціілі столькі праблем і зноў прызнаў, што гэты год будзе вельмі складаным, такіх яшчэ не было.

**Магілёў.** Старшыня ФПБ М.Орда папрасіў А. Лукашэнку выратаваць ад ліквідацыі мясцовы завод-банкрот "Строммашына", яго даўгі дасягнулі 154 млрд. рублёў.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч паведаміў, што ніхто з членаў ЕАЭС і АДКБ, за выключэннем Арменіі, не падтрымлівае агрэсіўную РФ у канфліктах з Украінай,Турцыяй.

**Гродна.** Мясцовы мясакамбінат пры падтрымцы амерыканскай кампаніі Rostelli падпісаў кантракт аб пастаўках ялавічыны, стэйкаў і каўбас на 50 млн. USD на Бліжні Усход.

**Маладзечна**. Больш 150 прадпрымальнікаў спынілі кантракты на арэнду гандлёвых месц на цэнтральным рынку, там засталіся прадаваць беларускае адзенне і абутак 15 чалавек.

**Лунінец.** На другім па значнасці ў раёне пасля "Граніта" прадпрыемстве "Лунінецлес" пачалі працэдуру банкроства, у лепшыя часы на ім працавала каля 700 чалавек.

**Мінск.** Як заявіў эканаміст С.Чалы, Расія лічыць, што і мы павінны пакутваць ад заходніх санкцый, як і яны, бо мы саюзнікі, таму летась беларускі экспарт у РФ знізіўся на 33%.

**Гомель.** Упершыню за 10 гадоў днём на працягу некалькіх гадзін аказаліся без паліва ў абласным цэнтры машыны "хуткай дапамогі", яшчэ больш праблем было ў паліклінік.

***Жабінка.*** Суд раёна пакараў 2 гадамі і 3 месяцамі турмы былога супрацоўніка ДАІ, які атрымаў ад грамадзяніна РФ хабар пад выглядам уплаты штрафу за перавышэнне хуткасці

**Мінск.** Доля прадаж тэхнікі МАЗа на расійскім рынку скарацілася летась яшчэ ў 2 разы да 7,1%, за 11 месяцаў туды аўтазавод прадаў 3241 грузавік, яго склады перапоўнены.

**Брэст.** Следства выявіла, што прычынай катастрофы ля горада летам самалёта Іл-130 "Беллесавіі" стала няспраўнасць тэхнікі з-за перагрэву рухавіка і падзення яго магутнасці.

**Курапаты.** Актывіст КПБ, пісьменнік А. Лазуткін на прарасійскім сайце апублікаваў лжэ-артыкул з абвяржэннем таго, што былі сталінскія рэпрэсіі і расстрэлы нявінных людзей.

**Мазыр.** Падчас загоннага палявання на лася ва ўгоддзях нацпарка "Прыпяцкі" паляўнічы з Расіі памылкова застрэліў зубра, яму далі штраф 432 млн. руб., могуць завесці і справу. *Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках імнфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Набылі моц папраўкі ў Падатковы кодэкс




■ **Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН**

**1 студзеня на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале апублікаваны закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях прадпрымальніцкай дзейнасці і падаткаабкладання».**

Як паведамляе Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі са спасылкай на Міністэрства фінансаў, змены ў Падатковы кодэкс абумоўленыя неабходнасцю прывядзення яго асобных норм у адпаведнасць з Дагаворам аб Еўразійскім эканамічным саюзе, зменамі ў іншых галінах права, неабходнасцю індэксацыі ставак падаткаў, устаноўленых у беларускіх рублях. Шэраг зменаў накіраваны на вырашэнне пытанняў, якія ўзнікаюць пры практычным прымяненні норм кодэкса.

Пры гэтым у 2016 годзе:

- стаўкі падаткаў, устаноўленыя ў беларускіх рублях, праіндэксаваны на прагнозны ўзровень інфляцыі;
- уведзеныя дадатковыя аб'екты абкладання дзяржаўнай пошлінай, а таксама павялічаныя стаўкі па асобных дзейных аб'ектах;
- павялічаны гранічны памер стаўкі курортнага збору з 3% да 5%;
- павялічана з 0,1% да 0,2% стаўка падатку на нерухомасць, які выплачваецца фізічнымі асобамі з другой і наступных кватэр, якія знаходзяцца ў іх уласнасці;
- мясцовым саветам дэпутатаў дадзена права па павелічэнні да 10 разоў ставак падатку на нерухомасць і зямельнага падатку, адносна маёмасці, якая не выкарыстоўваецца (неэфектыўна выкарыстоўваецца), а таксама адносна зямельных участкаў, на якіх размешчана такая маёмасць;
- павялічаны з 0,55% да 0,7% стаўкі зямельнага падатку па зямельных участках, на якіх размешчаныя рынкі і гандлёвыя цэнтры (комплексы), уключаючы аўтастаянкі;
- устаноўлена вызваленне ад падаходнага падатку даходаў, атрыманых за працу ў складзе студэнцкіх атрадаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на тэрыторыі дзяржаў – удзельніц СНД;
- удасканалены механізм заліку сум падаходнага падатку, выплачанага ў бюджэт замежнай дзяржавы, пры накіраванні работнікаў за мяжу на працу ў пастаянным прадстаўніцтве.

Акрамя таго, закон з 2016 года прадугледжвае адмену асобных падатковых ільгот:

- па ПДК — пры рэалізацыі вытворцамі Рэспублікі Беларусь транспартных сродкаў для перавозак пасажыраў з мэтай іх далейшай перадачы ў лізінг;
- па падаходным падатку – па даходах, атрыманых у выглядзе выйгрышаў ад арганізатараў азартных гульняў, з устанаўленнем стаўкі падатку ў памеры 4%, а таксама па даходах у выглядзе працэнтаў, атрыманых індывідуальнымі прадпрымальнікамі па банкаўскіх рахунках, укладах (дэпазітах);
- па падатку на прыбытак — ад рэалізацыі выраблёнай сельскагаспадарчай прадукцыі.

Асобныя палажэнні закона набываюць моц 1 ліпеня 2016 года. Гэта тычыцца ўвядзення электронных рахункаў-фактур па ПДК і зніжэння крытэрыя колькасці работнікаў прадпрыемства для мэтаў абавязковага электроннага дэкларавання — з 50 да 15 чалавек.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** А.Лукашэнка даручыў новаму памочніку-галоўнаму інспектару на вобласці А.Пазняку стварыць сумесна з губернатарам М. Шарстнёвым нармальны рэзерв кадраў.

**Браслаў.** Старшыня Камітэта дзяржкантролю Л.Анфімаў правёў "прамую лінію" з жыхарамі раёна, азнаёміўся з дзейнасцю мясцовага філіяла Глыбоцкага малочна-кансервавага камбіната.

**Гарадок.** З польскіх курант на мясцовай птушкафабрыцы пачалі ў прамысловых аб'ёмах вырошчваць індыкоў, сёлета плануюць вырасціць гэтай карыснай птушкі вагой 1200 тон.

**Верхнядзвінск.** На новай вытворчай лініі мясцовы хлебазавод пачаў выпускаць да 20 тон у месяц дыябетычныя сушкі і кольцы мядовыя, іх стала набываць і кампанія "Еўраопт".

**Глыбокае.** У Мосарскім касцёле і Удзелаўскім цэнтры культуры адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння былога пробашча, знакамітага ў Беларусі ксяндза Ёзаса Булькі.

**Ушачы.** Настаражытных Бутаўскіх могілках райцэнтра ўрачыста адкрылі і асвяцілі надмагільны помнік народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну вагой 2,5 тоны.

**Расоны.** У Пскоўскай вобласці пасля перасячэння дзяржаўнай граніцы Расіі знішчылі на палігоне адходаў больш 75 тон кантрафактных яблыкаў, груш і ківі, завезеных з Беларусі.

**Бягомль.** У памяшканні былой камендатуры фермерская гаспадарка "Васілёк" з Дзяржынскага раёна Міншчыны адкрыла свой прыгожы фірменны магазін мясных прадуктаў.

**Сянно.** Занадта раўнівага 40-гадовага мужа суд пакараў за здзекі над жонкай годам абмежавання свабоды з адтэрміноўкай, яго прымусова будуць лячыць ад алкагалізму.

**Орша.** ЗША раскрылі свой ваенны архіў, горад быў другім у Беларусі пасля Быхава ў спісе важнейшых цэляў для бамбардзіровак на выпадак атамнай вайны з СССР.

**Паставы.** Музыканты заслужанага калектыва Беларусі, ансамбля "Паазер'е" ўдзельнічалі ў фестывалі народнай музыкі ў горадзе Малетай (Літва) і ў тэлепраграме ў Вільнюсе.

**Расоны.** На галоўнай плошчы райцэнтра адкрылася адна з першых у вобласці Wi-Fi-лаўка з магчымасцю бясплатнага падключэння да сеткі інтэрнет з планшэта і наўтбука.

**Лепель.** Жыхары раёна адгукнуліся на заклік эколагаў выратаваць ад зарастання возера Шчыбот, за іх сродкі купілі першых 300 кілаграмаў белага амура, які паядае водную расліннасць.

**Віцебск.** Упершыню ў гісторыі тэлекампанія "Віцебск" і канал "Беларусь-4" правялі ў прамым эфіры трансляцыю святочнай імшы з катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага.

**Орша.** Намеснік міністра культуры Беларусі В.Чэрнік адкрыў у Купалаўскім мемарыяльным запаведніку "Ляўкі" новую літаратурна-дакументальную экспазіцыю.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мінімальны стаж для атрымання працоўнай пенсіі будуць плаўна павялічваць да 20 гадоў

Права на працоўную пенсію па ўзросту, за выслугу гадоў з 1 студзеня 2016 года будзе давацца пры наяўнасці стажу працы з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацабароны насельніцтва не меней 15 гадоў і 6 месяцаў, гаворыцца ва ўказе №534 ад 31 снежня 2015 года, які афіцыйна апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА.

"Пачынаючы з 1 студзеня 2017 года паказаны стаж працы штогод з 1 студзеня павялічваецца на 6 месяцаў да дасягнення 20 гадоў", - адзначаецца ў дакументе.

Новаўвядзенне тычыцца пенсій, якія прадугледжаны артыкуламі 11-13, 15, 24, 47 - 49-2 закона ад 17 красавіка 1992 года "Аб пенсійным забеспячэнні"; артыкулам 54 закона ад 14 чэрвеня 2003 года "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь"; артыкуламі 32 і 33 закона "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, іншых радыяцыйных аварый" ад 6 студзеня 2009 года.

Указ устанаўлівае, што замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія працуюць у Беларусі ці што з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню на ўмовах, устаноўленых заканадаўствам для беларускіх грамадзян.

Дакументам таксама агаворваецца: "Устанавіць, што пераразлік працоўных пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы працаўнікоў у рэспубліцы ажыццяўляецца на падставе ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не радзей аднаго разу ў год у межах сродкаў дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь".

Уносяцца і некаторыя іншыя змены, якія тычацца Пастановы пра выплату абавязковых страхавых узносаў, узносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне і іншых плацяжоў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

***БЕЛТА***

## Мінімальная зарплата ў Беларусі павялічана да 2 млн. 300 тыс. рублёў

**Месячная мінімальная заработная плата (МЗП) з 1 студзеня 2016 года павышана на 120 тыс. рублёў да 2 млн. 300 тыс. рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў №1094 ад 24 снежня, апублікаванай на сайце ўрада.**

Папярэдні раз мінімальная зарплата павышалася роўна год таму – 1 студзеня 2015 года, да 2 млн. 100 тыс. 100 рублёў. У ліпені яна была праіндэксаваная і склала 2 млн. 180 тыс. 126 рублёў.

У лістападзе першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Андрэй Лабовіч заявіў, што з новага года МЗП складзе не менш чым 2,5 млн. рублёў і будзе не ніжэйшым за памер мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ) сям`і з чатырох чалавек.

З 1 лістапада 2015 года па 31 студзеня 2016 года МСБ складае 2 млн. 499 тыс. 270 рублёў.

Мінімальная зарплата (месячная і гадзінная) – гэта дзяржаўны мінімальны сацыяльны стандарт, які наймальнік абавязаны прымяняць у якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы. Калектыўным дагаворам можа быць устаноўлены іншы памер месячнай МЗП, але ён павінен быць не ніжэйшы за памер МЗП. Месячная МЗП падлягае індэксацыі з улікам інфляцыі.

***Марына Носава, БелаПАН.***

**Зіма**

Вось і прыйшлі жаданыя
Зімовыя дзянькі.
Дык дставай схаваныя
І саначкі каваныя,
І лыжы, і канькі!

Яны ўжо застаяліся —
Дай волю ім хутчэй!
Вітай, раздолле белае!
Хай кроў у жылах бегае
Шпарчэй і гарачэй!

***Ніл Гілевіч***

Фота Н. Маліноўскай

## Базавая велічыня ў Беларусі павялічана да 210 тысяч рублёў

З 1 студзеня базавая велічыня ў Беларусі вырасла са 180 тысяч да 210 тысяч рублёў. Гэта прадугледжана пастановай урада ад 18 снежня №1059.

Базавая велічыня была ўведзеная 1 сакавіка 2002 года, яна прымяняецца для падліку шэрагу паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносінаў, вызначае памер штрафаў і пошлін.

***М. Носава, БелаПАН.***

## Павысіліся цэны на некаторыя маркі цыгарэт

**У Беларусі 1 студзеня павышаны рознічныя цэны на асобныя маркі цыгарэт. Інфармацыя пра заяўленыя плацельшчыкамі акцызаў максімальныя рознічныя цэны на цыгарэты з фільтрам апублікаваная на сайце Міністэрства па падатках і зборах Беларусі.**



Цана на цыгарэты "Кронан" павышаная на 2,7% да 7.600 рублёў за пачак, на "Фэст" – таксама на 2,7% да 7.700, на цыгарэты "Мінск" і "Прэм'ер" – на 2,3% да 9.000, Credo – на 2,9% да 7.200 рублёў.

Цыгарэты NZ падаражэлі на 2,2% да 9.400, More таксама на 2,2% да 10.200. Пяць версій Kent HD – на 4,9% да 21.500 рублёў за пачак.

Больш за ўсё падаражэла марка Oscar – на 7,6% да 14.200 рублёў за пачак.

1 снежня цэны на больш за шасцьдзесят марак цыгарэт таксама павышаліся – на 2,2–12,9%.

***Марына Носава, БелаПАН.***

## МУС Беларусі прапануе не штрафаваць кіроўцаў, якія забыліся дома правы

**Пра гэта паведаміў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, перадае карэспандэнт БелТА.**

Міністр адзначыў, што з улікам цяперашняга ўзроўню развіцця тэхнікі кожны супрацоўнік ДАІ можа праверыць кіроўца па базах дадзеных.




«Калі ён не парушальнік, належным чынам атрымаў пасведчанне кіроўцы, то, на мой погляд, падстаў караць яго за непамятлівасць няма», – сказаў Ігар Шуневіч.

На дадзены момант за забытыя дома правы, згодна з заканадаўствам, належыць штраф. Ёсць яшчэ некалькі адміністрацыйных правапарушэнняў, рэагаваць на якія, паводле ацэнак МУС, можна лаяльней. Адпаведныя ініцыятывы ў бліжэйшы час, магчыма да канца года, будуць вынесены на грамадскае абмеркаванне.

***БелТА.***

## МПЗ сфармуе спіс тых, хто не ўдзельнічае ў фінансаванні дзяржрасходаў платнікаў да 1 жніўня

Міністэрства па падатках і зборах Беларусі сфармуе спіс тых, хто не ўдзельнічае ў фінансаванні дзяржрасходаў платнікаў збору да 1 жніўня бягучага года. Пра гэта карэспандэнту БелТА паведаміў міністр па падатках і зборах Беларусі Сяргей Налівайка. *"У міністэрстве будзе апрацавана інфармацыя, якая паступае ад усіх дзяржаўных органаў і іншых арганізацый, і да 1 жніўня сфармаваны спіс платнікаў збору. Тады мы і зможам сказаць пра колькасць грамадзян, якім будзе накіравана паведамленне на выплату збору"*, – сказаў кіраўнік ведамства. Па дадзеных МПЗ, на 1 студзеня гэтага года добраахвотна прадставілі апавяшчэнні пра няўдзел у фінансаванні дзяржрасходаў 420 чалавек. Ім прад'яўлена да выплаты Br1,3 млрд. *"Тая катэгорыя, якая падлягае абкладанню зборам, зафіксавана ў дэкрэце. Часавым адрэзкам, па якім людзі могуць стаць яго платнікамі, будзе з'яўляцца 2015 год. Асноўны крытэр – 183 дні. Калі грамадзяне не ажыццяўляюць працоўную дзейнасць, ёсць катэгорыі, якія не будуць выплачваць збор"*, – адзначыў Сяргей Налівайка.

Падрыхтаваны праект дэкрэту "Аб занясенні дадаткаў і зменаў у Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 красавіка 2015 г. №3". Праектам карэктуюцца некаторыя палажэнні трэцяга дэкрэту для іх адназначнага разумення, павялічваецца мяжа ўзросту дзяцей, пры выхаванні якіх грамадзянін прызнаецца тым, які ўдзельнічае ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў (да дасягнення дзіцем узросту 10 гадоў уключна або старэй гэтага ўзросту да завяршэння ім навучання на І ступені агульнай сярэдняй адукацыі). Акрамя таго, мясцовым Саветам дэпутатаў плануецца даць права вызваляць грамадзян ад выплаты адпаведнага збору ў сувязі са знаходжаннем у цяжкай жыццёвай сітуацыі. Міністр таксама звярнуў увагу на тое, што, да прыкладу, у Расіі з'явіліся фірмы, якія прапануюць за грошы даведкі пра тое, што чалавек нібы знаходзіўся на тэрыторыі РФ і выплачваў там падаткі. Такім чынам, грамадзяне жадаюць пазбегнуць адпаведнага плацяжу. *"Мне б хацелася папярэдзіць людзей, каб яны не марнавалі ні час, ні грошы. Мы жывём у 21 веку. Улічваючы, што ў нас вельмі добрыя адносіны з калегамі з Федэральнай падатковай службы – уся інфармацыя элементарна будзе праверана. Мы назіраем цяпер шэраг прадпрымальнікаў, якія ў Расіі атрымліваюць фіктыўныя дакументы і вядзём дэталёвае высвятленне"*, – канстатаваў кіраўнік ведамства.




Дэкрэт №3 "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства" падпісаны кіраўніком дзяржавы 2 красавіка 2015 года. Для яго рэалізацыі прынята пастанова ўрада, якая рэгулюе парадак узаемадзеяння дзяржорганаў па фармаванні базы дадзеных платнікаў збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў. У наш час Міністэрствам па падатках і зборах распрацаваны інфармацыйны рэсурс, які дазваляе аптымізаваць працэс фармавання спісу платнікаў.

***Тацццяна Іванюк - БЕЛТА***

# Аляксандра Нікалаева: Немцы нават развітацца з мамай не далі...



**Аляксандра Гаўрылаўна Нікалаева з Шаркоўшчыны 15 снежня адзначыла свой 90-гадовы юбілей. Але глядзячы на яе, у гэта мала верыцца. Жанчына з аптымізмам ставіцца да жыцця, цікавіцца падзеямі, якія адбываюцца навокал. А перажыць ёй давялося шмат. Сваімі ўспамінамі яна падзялілася з чытачамі нашай газеты.**

■ **Зміцер Лупач**

– Самае страшнае, што мне ўдалося перажыць - гэта канцлагер у Слуцку. Я сама родам са Смаленскай вобласці. Калі ў нас з'явіліся немцы, а жылі мы непадалёк ад лесу, і немцы, каб пазбавіць партызанаў падтрымкі, вырашылі ачысціць гэту тэрыторыю ад насельніцтва.

Падагналі машыну, далі пяць хвілін на зборы, і ўсе ўжо былі ў машынах. І ніхто не ведаў, куды нас вязуць. Забралі ўсю сям'ю ў нас.

Прывезлі нас на станцыю, пагрузілі ў вагоны, у якіх жывёлу возяць. Вагоны набітыя людзьмі, аж дыхаць няма чым. І павезлі нас, зноў не ведаем куды. Як потым аказалася, прывезлі нас у Слуцкі канцлагер.

Быў гэты канцлагер абнесены ў сем радоў калючым дротам, нікога туды не прапускалі. Кармілі вельмі дрэнна там, сто грамаў хлеба на дзень, а бывае і гэтага не дадуць. Спалі на голых дошках, па якіх бегалі вошы. Мая пляменніца была зусім малая, дык потым успамінала, што па гэтых вашах навучылася лічыць.

Потым захварэла мая мама, яе як хворую забралі ў іншы барак. Бывала, мы прарываліся, каб адведаць яе. І вось мама памёрла ў тым лагеры, а паміралі там дзясяткамі за дзень, І тата венес яе за дрот. А там адразу капалі ямы, куды скідвалі мёртвае насельніцтва. Напоўняць яму да верху, потым новую капаюць. Мы з сястрой хацелі прыйсці развітацца, але немцы нас не пусцілі.

У тым лагеры шмат дзяцей было, дзеці ж малыя, усё адно бегаць хочацца. Дык немец-надзірацель хадзіў з бізуном, і як толькі пабачыць, што дзіця бегае, адразу біў. Толькі на нарах дазвалялася сядзець.

Доўгі час мы прабылі ў тым лагеры, потым нас зноў пагрузілі ў вагоны для скаціны і павезлі.

Прывезлі нас у Паставы, тут ужо мы былі не за дротам. Нейкі час праходзілі каранцін. Немцы ж збіраліся быць на беларускай зямлі вечна, таму нас прывезлі як рабочую сілу.

Пасля каранціна людзей адпраўлялі каго куды, я патрапіла ў Шаркаўшчыну. Прывезлі нас, пераначавалі мы ў нейкім доме без акон, а назаўтра з вёсак прыязджалі солтысы, якія бралі людзей на працу. Я патрапіла да пана па прозвішчу Стралкоўскі, сястра да іншага пана.

Пан Стралкоўскі аказаўся добрым чалавекам, тут я хоць паела ўжо і была адзетая-абутая.

Потым пасля вайны, калі палякам дазволілі выязджаць у Польшчу, пан Стралкоўскі хацеў мяне ўдачарыць і забраць з сабой. У Польшчу я ехаць не пагадзілася, да гэтага часу я знайшла бацьку, сястру, таму не хацела зноў разлучацца з сям'ёй. Так і засталіся мы жыць у Шаркаўшчыне, я і зараз тут жыву.

***

Слухаючы падобныя ўспаміны, пачынаеш разумець нашых людзей, калі яны кажуць, каб толькі вайны не было.

Успаміны Аляксандры Нікалаевай увойдуць у другую частку фільма «Дзеці вайны», які мы здымаем з калегам Леанідам Юрыкам. У гэтай частцы мы расказжам пра лёсы малалетніх вязняў, нашых землякоў, якім пашчасціла выжыць у тыя страшныя ваенныя гады.

## Ксёндз Чэслаў Курэчка з Росіцы стаў лаўрэатам прэміі «За духоўнае адраджэнне»



**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прысудзіў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльныя прэміі дзеячам культуры і мастацтва 2015 года.**

Адпаведныя ўказы кіраўнік дзяржавы падпісаў 30 снежня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара.

У ліку лаўрэатаў прэміі і пробашч рэлігійнай абшчыны «Парафія Святой Тройцы ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна Віцебскай дыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь» Чэслаў Курэчка, чый важкі ўклад у захаванне міжканфесійнага міру і нацыянальнай згоды, а таксама актыўны ўдзел у духоўна-асветніцкай дзейнасці краіны і прапагандзе здаровага ладу жыцця заслужылі шырокае прызнанне ў грамадстве.

*Паводле БЕЛТА*



## У Глыбоцкім касцёле прайшла дзіцячая батлейка

**У нядзелю, 3 студзеня, маленькія вернікі глыбоцкай парафіі прадставілі сцэнку пра Божае Нараджэнне.**

Выступ быў падрыхтаваны пад кіраўніцтвам сястры Ганны Блышко. Глядзячы па рэакцыі гледачоў, прадстаўленне ім спадабалася.

Пасля выступу маленькіх артыстаў запрасілі ў кляштар, дзе дзяцей чакаў салодкі стол.

*Зміцер Лупач, тэкст*
*Марына Сінкевіч, фота*



## Хто знішчае беларускую мову?

**Па-беларуску навучаецца толькі 0,1% студэнтаў! Што тычыцца дашкольнай і школьнай адукацыі, то 10% дзяцей у садках і 14% школьнікаў выхоўваюцца і навучаюцца ў беларускамоўных групах і класах.**

Паводле статыстычнага зборніка «Образование в Республике Беларусь, 2015», у дашкольных установах на беларускай мове выхоўваюцца 43 тысячы дзяцей (10%).

Колькасць школьнікаў, якія вывучаюць усе прадметы на беларускай мове ў школе, за апошнія чатыры гады знізілася з 19% да 14%.

Таксама скарачаецца колькасць абітурыентаў, якія абралі беларускую мову на цэнтральным тэставанні. У 2015 годзе беларускую мову здавалі толькі 24% выпускнікоў, 76% – расейскую. Зараз у Мінску 5 беларускамоўных гімназій (№№ 4, 9, 14, 23 і 28), 2 школы (№№ 60 і 190), 1 беларускамоўны клас – у школе №68.

Ні ў адным з абласных цэнтраў беларускамоўных школ няма! За апошнія 5 гадоў больш як у два разы скараціўся набор на беларускую філалогію. У 2010 годзе Белдзяржуніверсітэт на дзённую форму навучання набіраў 60 студэнтаў (48 бюджэт і 18 на платнай аснове). У 2015 годзе – ужо толькі 20 і толькі на бюджэт.

І яшчэ адно параўнанне не на карысць роднай мовы: у 2015 годзе на кітайскую філалогію ў БДУ набор вышэйшы за беларускую – 30 месцаў.

*Радыё Рацыя*

### Без каментароў

| УКРАИНА | БЕЛАРУСЬ | ПОЛЬША | РОССИЯ |
|---|---|---|---|
| СНІДАНОК | СНЯДАНАК | SNIADANIE | ЗАВТРАК |
| ПОДАТОК | ПАДАТАК | PODATEK | НАЛОГ |
| ВИБУХ | ВЫБУХ | WYBUCH | ВЗРЫВ |
| РАНОК | РАНІЦА | RANO | УТРО |
| РУХ | РУХ | RUCH | ДВИЖЕНИЕ |
| ДОБРЕ | ДОБРА | DOBRE | ХОРОШО |
| ПРАЦЯ | ПРАЦА | PRACA | ТРУД |
| КРАЇНА | КРАІНА | KRAJ | СТРАНА |

**Адна мова тут яўна не славянская...**

# Заўсёды выконвайце прыродаахоўнае заканадаўства

**Беларусь не абдзелена воднымі рэсурсамі, асабліва гэта датычыць Віцебскай вобласці, не выключэнне тут і Глыбоцкі раён. На тэрыторыі раёна размешчана больш за 100 азёр і вадаёмаў, многія з іх размешчаныя ў найпрыгажэйшых месцах.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*



**Тры дзясяткі рыбалоўных сетак даўжынёй больш за 2 км канфіскавалі супрацоўнікі ўпраўлення аператыўнага рэагавання Дзяржінспекцыі ў прадпрымальніка, які спрабаваў збыць нелегальны тавар на рынку ў Навалукомлі.** *Здымак з сайта інспекцыі*

З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта сведчыць аб тым, што ёсць у іх шмат рознай рыбы, можна добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян міжраённай інспекцыяй штотыдзень спыняюцца спробы незаконнай здабычы рыбы.

Так, за 2015 год выяўлена 76 парушэнняў Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, канфіскавана больш за 2 км сетак, 28 адзінак іншых забароненых прылад рыбалоўства, 239 кг незаконна здабытай рыбы, 16 адзінак агнястрэльнай зброі. У дачыненні да парушальнікаў Правілаў рыбалоўства распачатыя 4 крымінальныя справы, 7 чалавек прыцягнута да крымінальнай адказнасці, сума шкоды, кампенсаванай дзяржаве, склала больш за 400 млн. рублёў.

Прыемна, што з кожным днём усё радзей і радзей на нашых вадаёмах сустракаюцца браканьеры, а людзі з разуменнем ставяцца да праблем захавання рыбных рэсурсаў, неацэнную дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі аказваюць простыя рыбаловы-аматары, вялікі ім дзякуй.

Немагчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Многія берагі азёр заваленыя смеццем пасля рознага роду пікнікоў, гулянняў, і толькі пакараннем гэтую праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёр і дапамогі грамадзян у гэтым пытанні мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў.

Месцы масавага адпачынку грамадзян гэта не толькі тыя, якія выдзелены рашэннямі раённых выканаўчых камітэтаў, але і найбольш наведвальныя грамадзянамі лясныя масівы, лесапаркавай зоны. У такіх месцах гэтак жа неабходна выконваць прыродаахоўнае заканадаўства. Напрыклад: не ставіць аўтатранспарт бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі вадаёмаў, выкідваць смецце, забаронены рух на аўтамотатранспарце па ледзяным покрыве, знаходзіцца на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі вадаёма з забароненымі прыладамі рыбалоўства, для здабычы рыбы з ужываннем 10 кручкоў абавязкова неабходна мець сапраўдны білет рыбалова, на арандаваных вадаёмах, дзе арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства абавязкова наяўнасць пуцёўкі, не пакідаць на лёдзе смецце (у тым ліку недакуркі, пачкі ад цыгарэт, бутэлькі і г.д.).

**Тэлефоны «даверу» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

# У Віцебскай вобласці чацвёра рыбакоў купаліся ў ледзяной вадзе рызыкуючы з-за рыбалкі па першым лёдзе



**1 студзеня на двух азёрах у Бешанковіцкім раёне рыбакі правальваліся пад яшчэ не трывалы лёд: два чалавекі на Паўазер'і і яшчэ двое на Сасноўцы.**

У 10:59 Бешанковіцкі РАНС атрымаў паведамленне пра рыбакоў, якія тонуць на возеры Паўазер'е ля вёскі Сокарава. Да прыбыцця выратавальнікаў рыбакоў, якія цярпяць бедства, выратавалі іншыя рыбакі – В. Баскаўлаў і Г. Крываножка.

Два жыхары Чашнік, 55-ці і 63-х гадоў, рыбачылі ў 150 метрах ад берага, калі пад імі праваліўся лёд. Паблізу знаходзіліся іншыя рыбакі, якія і аказалі дапамогу тым, якія тонуць. Пасля агляду працаўнікамі хуткай медыцынскай дапамогі выратаваныя ад шпіталізацыі адмовіліся, на асабістым аўтамабілі з'ехалі дахаты, паведамляе прэс-служба МНС.

У той жа дзень каля 10:00 па інфармацыі папулярнага форума беларускіх рыбаловаў у тым жа Бешанковіцкім раёне на возеры Сасноўка праваліліся яшчэ два рыбакі, жыхары Віцебска. «Мужыкі, хто збіраецца на Сасноўку, будзьце акуратныя – з боку клуба і да вострава лёд 1 см. З сябрам праваліліся гадзіну назад, ледзьве выбраліся, гэта вельмі страшна, нам проста пашанцавала, будзьце акуратныя!» – піша адзін з пацярпелых.

МНС папярэджвае аматараў зімовай рыбалкі, што выходзіць на нетрывалы лёд катэгарычна забараняецца. Пакуль лёд не дасягнуў бяспечнай таўшчыні ля берага, не варта адыходзіць ад яго далёка.

Трывалы лёд мае блакітны колер, калі ж колер лёду белы, то ён вытрымае нагрузку ў два разы меншую. Калі ж лёд мае шэрае ці жаўтлявае адценне, ён вельмі не надзейны, і выходзіць на яго вельмі небяспечна. Наогул, выходзіць на лёд можна толькі пры ўмове, што яго таўшчыня дасягнула не меней 10 см.

*ННВ*

## МНС інфармуе

**на 01.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 771;
Гібель людзей – 83, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 31;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –591,1 млн. руб.

# У апошні дзень 2015 года на Глыбоччыне адбыліся два пажары



**Абодва пажары адбыліся 31 снежня. У цяперашні час высвятляецца прычына ўзгарання дома ў Ломашах. У Шуневічах, па папярэдняй версіі, да пажару прывяло кароткае замыканне электрычнай праводкі аўтамабіля.**

Пра гэта паведаміў інспектар групы прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Глыбоцкага РАНС Алег Салодкі.

Паведамленне аб пажары ў доме ў вёсцы Ломашы паступіла ў РАНС у 2.01. Па прыбыцці выратавальнікаў на месца здарэння назіралася адкрытае гарэнне дома.

У выніку пажару агонь знішчыў дах, столь, маёмасць, а таксама пашкодзіў сцены жылля.

Як адзначыў Алег Салодкі, у доме пасля смерці гаспадыні пастаянна ніхто не пражываў, перыядычна прыязджаў сын, які жыве Полацку. У момант узнікнення пажару ў Ломашах яго не было.

Прычына ўзгарання дома высвятляецца.

31 снежня ў 4.48 у вёсцы Шуневічы загарэўся гараж з машынай «Нісан-Альмера» 1996 году выпуску ўнутры.

Калі ратавальнікі прыбылі на месца здарэння, гараж гарэў адкрытым полымем.

У выніку пажару гараж і аўтамабіль згарэлі. Таксама агонь пашкодзіў лазню, якая была размешчана непадалёк ад пажару.

Папярэдне ўстаноўлена, што да ўзгарання прывяло кароткае замыканне электрычнай праводкі аўтамабіля, пашкоджанай грызунамі, з далейшым узгараннем ізаляцыі і самой машыны, адзначыў Алег Салодкі.

*Паводле kraj.by*



# Таленты і іх паклоннікі

**«В каждом человеке заключается целый ряд способностей и наклонностей, которые стоит лишь пробудить и развить, чтобы они, при приложении к делу, произвели самые превосходные результаты. Лишь тогда человек становится настоящим человеком».**

***Август Бебель** (1840-1913)*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*



Хачу адразу звярнуць увагу чытача на тое, што дзеяч нямецкага і міжнароднага сацыялістычнага руху Аўгуст Бебель канкрэтна ўказвае, што прабудзіўшыся чалавек павінен развіваць свой талент на прылажэнне да справы і атрымаць самыя дабрыя вынікі, а не на шоў-бізнас і проста дурноту. Згодна слоўніка рускай мовы Ожэгава “талент – выдатныя прыроджаныя якасці, асаблівыя прыродныя дадзеныя”. Вось гэтыя выдатныя якасці і патрэбна ўзраджаць на дабрабыт грамадству і самой асобе.

Дзяржава мае тры асноўныя функцыі: захаваць бяспеку жыцця сваіх грамадзян; падтрымліваць іх матэрыяльны дабрабыт; гарантаваць іх духоўныя свабоды – свабоды рэалізаваць іх магчымасці. Вось праз свабоду рэалізаваць магчымасці дзяржава і яе структуры абавязаны непасрэдна займацца прабуджэннем і раскрыццём выдатных якасцяў асобы, што станоўча адаб'ецца і на бяспецы жыцця грамадзян, і на падтрымцы іх матэрыяльнага дабрабыту.

У кожнага чалавека ў яго жыцці ёсць два выдатныя моманты: першы – гэта, калі ён нарадзіўся на гэты свет, а другі – калі ён, нарэшце, зразумеў, навошта ён нарадзіўся, якая яго місія. Першы момант нічога асаблівага не нясе, акрамя нараджэння, і ён адносна кароткатэрміновы. Другі момант мы можам вельмі доўга чакаць, а то і, наогул, не дачакацца. А самае дрэннае, калі чалавек пад уздзеяннем навакольнага асяроддзя адваротна зразумее сваю місію. Вось тут і неабходна яму дапамога, на першай пары бацькоў, потым школы, іншых навучальных устаноў, жыцця. Практычнае жыццё паказвае, што, нажаль, далёка не ўсім людзям таленавітым ад нараджэння ўдаецца раскрыць свае магчымасці. Прычыны самыя розныя. Як педагог, маю права канстатаваць той факт, што ў школу ў пачатковыя класы прыходзіць вельмі многа таленавітых дзяцей, аб чым гаворыць іх вынікі вучобы за год. А вось пакуль прытопаем у выпускны клас, колькі мы іх губляем. Прырода тут ні пры чым, не яна іх сапсавала, гэта мы дарослыя цёці і дзядзі, чулыя мамы і таты, настаўнікі, прашу прабачэння ў таленавітых педагогаў, не сумелі, не змаглі прывіць любові да вучобы, цікавасці да ведаў. Па гэтай прычыне ў інтэрв'ю часопісу “Аднак, жыццё” вельмі добра выказаўся Юры Вяземскі, аўтар і вядучы тэлеперадачы “Разумнікі і разумніцы”, дзякуючы якой ён сам шмат карыснага зрабіў для раскрыцця творчых здольнасцяў старшакласнікаў. Вось яго меркаванне: *“Патрэбна заўсёды развіваць свае здольнасці! І перш за ўсё, важна зразумець, для чаго ты нарадзіўся на гэты свет і што табе больш за ўсё цікава ў гэтым жыцці. Да чаго ты найбольш здольны. Бываюць людзі, якія ўсё жыццё займаюцца не сваёй справай і не атрымліваюць ніякага задавальнення. Жывуць бязрадасна. Калі ты знойдзеш, чым ты хочаш займацца, і калі гэта будзе сапраўды твая справа, ты будзеш шчаслівым чалавекам, нягледзячы ні на што! Кожнаму Бог дае свае таленты, мы павінны іх памножыць”*. Сапраўды, амаль кожнае дзіця надзелена талентам, вось толькі патрэбна вызначыць – якім, і зрабіць усё магчымае, каб яго памножыць. Гэта першая задача бацькоў, а потым ужо школа будзе гэта шліфаваць, даводзіць да больш высокіх навыкаў.

Разумныя людзі кажуць, што творчы поспех любога чалавека, а таленту тым больш, складаецца з 5% закладзенага прыродай, а астатнія 95% – гэта наша праца. Кожны дзень мы павінны рабіць штосьці такое, каб маглі сказаць, што дзень пражыты не дарэмна. Кожны дзень – гэта маленькае жыццё! Многія з нас прафукваюць дзень за днём, памылкова мяркуючы, што ўсё добрае ў нашым жыцці яшчэ прыйдзе, усё будзе добра калі-небудзь, калі-небудзь і на нашай вуліцы будзе свята. Людзі не разумеюць, што гэтыя шэрыя будні і ёсць наша штодзённае жыццё! Што гэта штодзённае жыццё цудоўнае, бо мы ўдасканальваем свае прыродныя таленты. А што тычыцца свята на нашай вуліцы, то само яно ніколі не прыйдзе, яго павінны ствараць мы самі. Праўда, часам нам свята могуць зрабіць уладныя структуры, але гэта ўжо ўтрыманства.

З поспехам ходзіць такое меркаванне: *“Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ёсць ты”*. Разняволіць свае магчымасці, закладзеныя ў табе прыродай, можа аказаць вялікае станоўчае ўздзеянне твой сябар, асабліва, калі ён аднадумца. Усё, што адбываецца ў жыцці з людзьмі, служыць для іх навучання. Пакуль ты жывеш на адных інстынктах, як жывёла, якая пад пастаянным кайфам ад гармонаў, ты выбіраеш не тых, з кім будзеш шчаслівы, ты, нават, не разумееш, што такое быць шчаслівым, ты выбіраеш тых, якія цябе навучаць таму, што сёння модна і рамантычна. Але пройдзе рамантыка, яна зменіцца рэаліямі жыцця, і позна або рана табе прыйдзецца прызнацца самаму сабе, што займаўся не тым, чым патрэбна, што твае веды і навыкі ў тваім жыцці не маюць сапраўднага значэння, бо яны не скарыстоўваліся для сапраўднай справы, не ўздзейнічалі на патрэбны вынік.

Нельга ігнараваць той факт, што велічыня зробленых спраў цалкам залежыць ад маштабаў мыслення. Чалавек павінен ведаць хоць бы азы правілаў мыслення. Калі чалавек валодае абывацельскім мысленнем, то ўзровень яго побыту і ёсць яго рэальнасць. Усё астатняе знаходзіцца за яго межамі. Ён многае абвяргае, таму што многага не ведае. Аб якім тут таленце можа ісці гаворка. Адсюль важны вынік: велічыня спраў залежыць не ад матэрыяльных рэсурсаў чалавека, а ад маштабу мыслення. Рэсурсы другасныя! Але для гэтага неабходна развіццё на ўсіх узроўнях побыту, неабходны фундамент для расшырэння свядомасці, таму што чалавек дзейнічае толькі ў граніцах свайго разумення. І яшчэ: маштабнасць чалавека вызначаецца тым, як ён думае, гаворыць і дзейнічае ў маштабе сябе, сям'і, роду, краіны або чалавецтва.

Прадчуваю, што чытач запытаў бы мяне: *“А назаві ты хоць аднаго юнака, які сваім талентам дасягнуў хоць якіх вышынь?”* Калі ласка! У гарпасёлку Шаркоўшчына ў 1995 годзе, 19 год таму назад, скончыў сярэднюю школу Сяргей Мілліян. Паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, дзе вучыўся на філалагічным факультэце і ваеннай кафедры па спецыяльнасцях філолаг і ваенны перакладчык. Пасля заканчэння ўніверсітэта паступіў у Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце РБ на факультэт менеджмента па спецыяльнасці юрыст. Закончыўшы два курсы навучання атрымаў грант на стажыроўку ў ЗША па міжнароднай адукацыйнай праграме.

У 2005 годзе аднагалосна выбраны дырэктарам Расійска-Амерыканскага Фонда. З 2007 года прызначаны прэзідэнтам Расійска-Амерыканскай гандлёва-прамысловай палаты. Да гэтага ўваходзіў у Выканаўчы камітэт і Савет дырэктароў гэтай арганізацыі. У кастрычніку 2010 года заснаваў Міжнародны Цэнтр Развіцця Бізнесу на Уолт-стрыт пры Расійска-Амерыканскай Гандлёва-Прамысловай Палаце ў ЗША для сістэматычнага вываду расійскіх кампаній на амерыканскі рынак.

6 студзеня 2011 года быў прызначаны выканаўчым віцэ-прэзідэнтам NestSeekers International. Са снежня 2012 года выбраны членам Сусветнага экспертнага савета расійскіх суайчыннікаў пры Маскоўскім урадзе, а таксама прадстаўніком ТПП Кітая (г. Чжуншань) у Расіі.

Партнёр і пазаштатны прадстаўнік Беларускай ТПП у ЗША, спансіруе друк дзелавога часопіса, газеты гандлёвай палаты. Свабодна валодае пяццю мовамі: англійскай, рускай, беларускай, італьянскай і іспанскай. Раю больш падрабязна азнаёміцца з 37-гадовым зверхпаспяховым маладым дзелавым чалавекам Сяргеем Мілліянам у часопісе “Планета” №3 за 2014г, стар. 12-17.



**Сяргей Міледзьевіч Мілліян,** прэзідэнт Расійска-Амерыканскай Гандлёва-Прамысловай Палаты.

Безумоўна, што і ў нашым раёне ёсць не адзін чалавек, які змог закладзены ў ім прыродай талент раскрыць і памножыць яго, і ён варты таго, каб аб ім мы ведалі, гаварылі, служыў ён эталонам для іншых, расказвала б аб ім наша раёнка, а моладзь імкнулася быць падобнай на яго. Але гэтых людзей патрэбна шукаць, хоць вялікай працы іх адшукаць няма. Нашмат цяжэй падаць аб іх матэрыял, таму што кожны з іх унікальная асоба, і тут біяграфічнымі звесткамі не абыйдзешся, патрэбна паказаць яго ўнутраны духоўны свет, што самае галоўнае ў ім, як у чалавеку, якімі катэгорыямі ён разважае і г.д. А гэта вельмі складана, нашмат прасцей даць біяграфію любога паважанага чалавека, што мы і робім.

Паступіў мне званок з рэдакцыі, мэта якога была ўдакладніць некаторыя дадзеныя па маёй карэспандэнцыі. На другім канцы провада зрабілі мне заўвагу, што ў сваёй карэспандэнцыі я агулам ахайваю сучасную моладзь, абвінавачваю іх у дармаедстве і іншых грахах. У прыватнасці, я не справядлівы ў адносінах да выдатніцы ў вучобе, вельмі актыўнай, працалюбівай, якая на ўсё здольная дзеля таго, каб адстаяць гонар раёна Юлі Кураш. Знаёмы з гэтай асобай, з гэтым юным талентам, працалюбівай актывісткай толькі па скупых урыўках з газет, і тым больш, у мяне склалася вельмі прыемнае ўражанне аб ёй. Я гатовы папрасіць прабачэння ў гэтага юнага таленту, калі нанёс ёй абразу. Толькі я больш чым упэўнены, што гэтага я не зрабіў, бо ў маім артыкуле ніхто асабіста не названы. А вось тое, чым яна займаецца, я крытыкаваў і хачу больш змястоўна на гэту тэму пагаварыць сёння.

Я не выпадкова папярэдзіў чытача ў пачатку артыкула, выдзеліў думкі Бебеля, якія лічу асноўнымі для сённяшняй тэмы, менавіта, што ў кожным чалавеку заключаецца цэлы шэраг здольнасцяў і схільнасцяў, якія патрэбна толькі прабудзіць і развіць, каб яны, прыкладзеныя да справы, далі самыя выдатныя вынікі. Я не за прабуджэнне і развіццё ўсіх талентаў, а толькі тых, якія, прыкладзеныя да справы, змаглі б даць выдатныя вынікі. У адным са сваіх артыкулаў я і ўказваў на талент 18-гадовай студэнткі хімфака, якая арганізавала вытворчасць наркаты, праявіла вялікі талент, вывучыўшы сістэму канспірацыі мінскіх падпольшчыкаў па распаўсюджванню спайсаў, што яе доўгі час не маглі абясшкодзіць вопытныя спецыялісты. Хто стане аспрэчваць талент гэтай юнай асобы? Ці патрэбны нам такія таленты? У чым жа карысць нашага юнага таленту? Дзе можна практычна прымяніць здольнасць гэтага таленту? Так, гэта свайго роду знаходка дарослых цёцяў і дзядзяў, каб паказаць сваім шэфам, што мы не спім у шапку, шукаем таленты, знаходзім іх, развіваем, і вось нашы вынікі. Ой, якія ж мы малайцы! А тое, што мы ў сваіх асабістых інтарэсах эксплуатуем гэта юнае дараванне, ні гу-гу. Маладосць тым і цудоўная, што яна рамантычная. Наша гераіня рамантык, з аднаго боку – гэта цудоўна, гэта жывы чалавек, які шукае сваё прызначэнне ў жыцці, а з другога боку – для яе пакуль што не важна, якім чынам, але яна заўважана, яна рухаецца да вяршыні славы, аб ёй пішуць, яна на тэлебачанні. Але рамантыка праходзіць, на змену ёй заступае рэальнае жыццё. І вось тут мы ў недаразуменні. На што ж я згубіў лепшыя гады, колькі аддадзена сіл і энергіі, а для чаго? Вы, паважаныя, цёці і дзядзі, думалі пра гэта? У вас былі іншыя мэты?

*Заканчэнне на стар. 14*

Здам у арэнду гараж 8,0х4,5м, 3,3м вышыня. Вароты ў гараж 3,9х2,7м. Аб'ём гаража 120м³, г. Глыбокае, вул. Шпітальная, 11. Т.: +37529-713-14-77 (мтс)*

Здам у арэнду памяшканне ў цэнтры горада, 16м², асобна стаячае. Т.: 8-029-297-70-12 (мтс)*

Здам у арэнду памяшканне ў гандлёвым цэнтры «Для Вас». Т.: 8-029-297-70-12 (мтс)*

Здам 2-пакаёвую кватэру, р-н МКК, на працяглы тэрмін. Т.: +37529-716-57-55, 8-029-861-08-89

## Мэбля на продаж:

Кухню новую. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Кухні.Распродаж. Акцыі. Зніжкі. Бясплатная дастаўка. Ад 5, 250млн.руб, выбар варыянтаў і колераў. АКЦЫЯ - выцяжка ў падарунак. УНП 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс)+

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

**Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Распродаж ад 4,0 млн.руб, КСТ-12,5, «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкеце. Дастаўка.** УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. **Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс), 8029-714-00-74(мтс)+**

Kацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Kацёл у лазню. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Kацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.:8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

## Прадам будматэрыялы:

Кольцы б\у, бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Пліты перакрыцця 2,5-3-метровыя б\у. Цэглу сілікатную палутарную б\у. Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Цэмент М 500 ДО, 39000руб\мяшок. Блокі. УНП 390431716. Т.: 810-04-70(мтс)+6

Кольцы б\у бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Т.: 8-029-286-65-32+

Арматура, Д=6мм. Цэгла сілікатная палутарная, б\у. Пліты перакрыцця 2,5 і 3-метровыя б\у. Шыфер новы, шыфер б\у. . Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Ламінат, сайдзінг, кускі лінолiума, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

## Куплю будматэрыялы:

Цэмент у мяшках. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

Двутаўру, таўру,вугалок, швелер. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Драку (драчку) для рубкі зрубаў. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Прадам тэлефоны:

Nokia-6700 C, выдатны стан,70 у.а. Т.: 816-09-00(мтс)+

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Халадзільнік б\у, 570тыс.руб. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Маразільнік б\у, 770тыс.руб. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Параачысціцель «Кархер», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 1,770млн.руб. Т.:8-029-286-65-32 (мтс)+

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 ад 13.08.14г. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Газавую пліту, 2006 г/в, б/у. Тэл. 8-029-249-15-62

## Прадам еміну:

**Бульбу дробную з дастаўкай,ёсць і вялікая. Т.:8029-514-21-76 (мтс)+7**

Бульбу вялікую. Т.: 891-08-45(мтс)3

Мяса труса. Т.:8-029-594-37-12 (мтс)

Жыўнасць на мяса, па 65.000 за кілаграм. Тэл. 8-029 894-24-88

Жыўнасць на мяса, 60.000 руб. за кілаграм. Тэл. 3-10-52, 8-029-891-69-90

## Прадам жывёлу, рыбак:

Маладога козліка на племя або на мяса. Т.: 817-82-16(мтс), 3-18-26+

Індакачак. Тэл. 8-029 514-18-58

Трусоў на племя, магчыма дастаўка. Тэл. 8-033-685-90-22

Жыўнасць, трусоў, авечак, в. Івесь. Тэл. 8-033-307-06-97, 3-97-01

Зааненскую казу. Тэл. 8-029 713-78-43

Жыўнасць. Тэл. 8-029-896-36-92

Жыўнасць, 7 тыдняў, прышчэпленыя. Тэл. 3-17-84, 8-029 355-10-64

Жыўнасць. Тэл. 8-029 719-16-77

## Куплю жывёлу:

Куплю дорага карову, быка, каня, цяля. Тэл. 8-033-605-64-19

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 233-85-95

Куплю быка, карову, цяля. Тэл. 8-033 657-19-48

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 897-54-76

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 597-59-08

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 257-18-59

## Прадам тавары для дзяцей:

Матрац для дзіцячага ложка ў выдатным стане. Т.: 8-029-815-14-63

Дзіцячую каляску 3 у 1, вытв. Польшча, 2.000.000руб. Тэл. 8-029-780-23-83, 8-029-989-15-28 Докшыцы

## Прадам адзенне, абутак:

Касцюм норфін-артык-25, новы, 2,5млн.руб. Т.: 8-029-895-58-32(мтс)

Зімовую мужчынскую куртку, памер 56. Тэл. 8-029-292-06-51

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай(альха-бяроза). Т.: 514-21-76(мтс)+3**

Дровы, абрэзкі, нядорага. Kацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8-029-286-65-32 (мтс)+

Дровы, 1,750млн.руб. Т.: 8-02156-2-63-50+

Дровы, можна сечаныя. Дастаўка. Т.: 345-37-03(мтс)

Машыну сечаных дроў. Т.: 719-51-13

Дровы, сечаныя, рэзаныя. Тэл. 8-029-517-36-86

## Прадам зерне:

Збожжа. Тэл. 8-029 514-18-58

## Прадам тавары для здароўя:

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалажвае,- садзейнічае пахудзенню Т: 8029-286-65-32(мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс) + у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ. УНН 391054834 выд.13.08.2014г Глыбоцкім РВК Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

## Куплю калекцыі:

Старыя манеты, узнагароды і іншае. Т.: 757-37-70+

## Здам:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду, 6х6=550тыс.руб\за 3 дні. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

## Прадам эл\абсталяванне:

Кампрэсар прафесійны на 380В, 2,8млн.руб. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка) 380В,5,7млн. руб. Т.:8029-120-82-52(в)+

Трохфазны эл\рухавік. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

## Прадам іншае:

Жорны (камні) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Бочка пад паліва на 200л, 250тыс.руб. Т: 8-029-28665-32 (мтс)+

Kацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Кухню новую. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Рогі аленя, лася. Тэл. 8-029 898-56-72 Бягомль

## Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю. Т: 8-029-286-65-32(мтс)+

Цыстэрну вады 2-3т. Т.: 770-60-43(мтс)

Куплю закатачную машынку для бляшаных банак. Т.8029-813-92-64

## Пасажырскія перавозкі:

**У Мінск і з Мінска**. Хутка,зручна! ІП Шабан В.В. Ліц.Мінтранспарта№3-32415ад16.12.2012. да 16.12.2022. Т.:8033-646-21-99(МТС), 8029-190-21-99(В)+12

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр**. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+12

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т; Рэно з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т; УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам; ФВ мікрааўтобус, ізатэрма, 14 кубоў, 1,5т. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс)+

Грузаперавозкі папутныя, зборныя з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т). УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.:8029-286-65-32 (мтс),8029-892-87-21(мтс)+

Перавозка аварыйных аўтамабіляў, джыпаў, мікрааўтобусаў, а таксама розных грузаў да 3т, па РБ, РФ, Літве, Латвіі, грузавая платформа, наяўны і безнаяўны разлік. УНП 390056166. Т.:+37529-713-32-88

## Паслугі:

Паслугі экскаватара-пагрузчыка, усе віды земляных работ: траншэі, сажалкі і інш. Наяўны і безнаяўны разлік.УНН391531670. Т.: 8-033-699-50-99 (мтс), 714-44-99+4

Земляныя работы: МАЗ, Амкадор – пагрузка, перавозка і перасоўванне грунта. УНП 591808413. Тэл.: 8(029) 774-70-60+5

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248. Т.:8029-713-36-35+8

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае.УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+8

Пашыў штор, цюляў, ламбрыкенаў.УНП300336676. Т.: 8-029-718-22-89, 2-60-60,8-029-872-57-73 (Алена)*

Устройства дахаў і фасадаў, аддзелачныя работы, гіпсакардон, плітка, ламінат, падыманне дамоў. Заключаем дамовы. Дапамога пры пакупцы і дастаўцы матэрыялаў. УНП 391075622. Т.:8029-717-29-41 (мтс), 8044-747-15-94(в)+2

Адкачаю каналізацыю. УНН391535571. Т.: 8-029-509-15-71

Рамонт кватэр і дамоў, укладка керамічнай пліткі, абшыўка гіпсакардонам, пластыкам, сайдзінг, МДФ, ПВХ, бетонныя ра-боты і мн. інш. УНП391534838. Т.:+37529-299-69-16 (мтс),+37529-944-63-93(в)

Вырашылі купіць аўтамабіль і сумняваецеся, біты ён ці не біты? Вызначу электронным таўшчынямерам: фарбаваны, не фарбаваны або падфарбаваны аўтамабіль! УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-120-82-52(в)+

Прыганю аўто пад заказ з Расіі, Літвы. Праверу электронным таўшчынямерам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

**Паслуга «Дамашні майстар»: 100 работ па доме і офісу.** ***Эл\-мантажныя работы***: мантаж і замена свяцільнікаў, лічыльнікаў эл\энергіі, аўтаматычных выключальнікаў, эл\кабеля, разетак, выключальнікаў, эл\з-ванкоў; выяўленне і ліквідаванне няспраўнасцяў эл\праводкі. ***Сантэхнічныя работы***: замена і мантаж лічыльнікаў вады, труб, змяшальнікаў, кранаў, унітазаў, умывальнікаў, душавых кабін; Мантаж труб з поліпрапілена для ацяплення і вадаправода. ***Дробны рамонт кватэр і дамоў***: плінтусы,адкосы, рамонт балконаў, укладка ламіната, лінолiума; навешванне карціn, карнізаў, люстраў, дываноў, кранштэйнаў пад тэлевізар, зборка мэблі,урэзка мыек, замкоў. Устаноўка і падключэнне бытавой тэхнікі. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Пастаянным кліентам зніжкі! Вопыт, якасць, выезд апаратыўна.ІП Жук В.І. УНП 391530-77 ад 18.12.2014г. Т.:8029-816-03-64, 8-029-379-77-94**

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473. Т.: 8-029-593-82-32+8

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473. Т.: 8-029-892-71-34+8

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н. Тэл. 8-033-306-29-89, 8-02156-5-38-59 Глыбокае.

Выканаю будаўнічыя працы (абшыўка сцен і паталкоў ГКЛ,ПВХ,МДФ; штукатурна-малярныя работы; работы з дрэвам; укладка падлогі, паталка; абшыўка сцен вагонкай, блок-хаўсам і шмат лікім іншым; даха-вые працы; каркасна-шчытавыя будынкі і шматлікія іншыя працы). А таксама дапамагу зрабіць лёгкі касметычны рамонт.УНП 391534031 ІП Кругленя П.Ю. Т. 8029-816-06-74

## Шукаю працу:

Рамонт аўтабампераў. Т.: 892-15-85*

Шукаю працу па догляду за дзецьмі, пажылымі людзьмі, дапамога па гаспадарцы. Тэл. 8-029-894-47-69

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку,ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68+

Вязанне кручком пад заказ. Рамонт і падгонка адзення. Тэл. 2-94-92, 8-029-213-40-13

**Прапаную працу:**

Патрабуецца рубшчык зрубаў. УНН 391054834. Пасв. №391054834 ад 13.08.2014г. Т.: 8029-892-87-21(мтс)+

Патрабуецца рознарабочы на будоўлю, грузчык. У арганізаваных брыгадах «шабашнікаў» няма патрэбы. УНН 391054834 выд. 13.08.2014. Глыбоцкім РВК. Т:8029-892-87-21, 8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца прадавец непрадуктовых тавараў у аддзел цацак, да 35 год, з вопытам работы. Т.:8029-297-70-12(мтс)*

У Дыскаўнтар «Востраў чысціні» патрабуецца кантралёр-касір, поўны сацпакет. Т.: 8-029-510-25-50

Патрабуецца прадавец у міні-кафэ «Гара». Т.:511-28-01(мтс), 345-40-88(мтс)

Для паджылага чалавека патрабуецца сядзелка. Тэл.: 2-65-77; мтс: 809-17-82*



Заканчэнне.
Пачатак на стар. 11

# Таленты і іх паклоннікі

Гэта не тэорыі. Аб гэтым піша чалавек, які ўжо ў глыбокай старасці прыйшоў да такой высновы на асабістым досведе. У свой час, завочна, але паспяхова, закончыў педінстытут, атрымаў прафесію настаўніка матэматыкі. Рамантыка і званне камуніста пацягнулі на грамадскую працу. Двойчы закончыў універсітэт марксізма-ленінізма. У асабістай бібліятэцы з'явілася па 6-8 падручнікаў па філасофіі, палітэканоміі, навуковаму камунізму, ідэалогіі, методыка партпрапаганды розных аўтараў. І не заўважыў, як стаў палачкай-выручалачкай РК КПБ па розных пытаннях, або, як папракала жонка, затычкай ад кожнай дзіркі. На мяне спадзяваліся, мне давяралі, бо ведалі – Шымуковіч не падвядзе ніколі, і не падвёў ні разу, аб чым гаворыць Дыплом І ступені за 1-е месца ў абласным конкурсе рэфератаў у 1989 годзе, Ганаровыя граматы Мёрскага РВК і райсавета ў 2001 годзе за шматгадовае і творчае супрацоўніцтва з райгазетай, Ганаровая грамата пераможцу творчага конкурсу райгазеты за 1987 год, Дыплом рэспубліканскага экалагічнага форума за 3-е месца ў рэспубліканскім конкурсе на лепшую публікацыю на экалагічную тэматыку "Мой родны кут, як ты мне мілы", і, нарэшце, Грамата Вярхоўнага савета БССР за грамадскую работу ў 1972 годзе. У пару б і нос задраць! Але я сказаў сабе, не сатвары ў сабе куміра, працуй спакойна. Не, гэта не рамантыка, яна была раней, гэта было нармальнае жыццё, якое патрабавала кожны дзень дзеяннаў. У той час мной былі задаволены, я таксама быў задаволены сабой, бо лічыў, што займаюся карыснай працай.

Сёння сітуацыя змянілася ў корані, а маё мысленне засталося тым жа. Зараз мае артыкулы ў райгазету праходзяць "тщательную" карэкцыю, а дакладней, "кастрацыю". З матэрыялаў– выдаляецца рацыянальнае зерне ў сметніцу, а пустазелле друкуецца ў газеце, гэта ў тым выпадку, калі ўся праца не ідзе ў макулатуру. І што цікава, рука, якая раней ставіла свае подпісы на граматах і дыпломах, сёння рэжа артыкулы без нажа, вызваляючы месца для больш патрэбнага матэрыялу. Не разумею, ці ў той час я яшчэ не дарос да дасканаласці, або сёння, па прычыне старога ўзросту, "пераросс".

І зараз я сур'ёзна задумваюся, а ці патрэбна мне было ўсё гэта? Не, гэта быў не рамантызм, гэта была канкрэтная праца з насельніцтвам. Як камуніст, я абавязаны быў удзельнічаць у фарміраванні актыўнай жыццёвай пазіцыі, як у падрастаючага пакалення, так і ў дарослых людзей. А можа ўсё ж лепш было згублены час, многа сіл і энергіі накіраваць у іншым напрамку? Зараз маладыя таленавітыя юнакі і дзяўчаты больш практычныя, на жаль, не ўсе.



На Рэспубліканскім конкурсе "Тэхна Інтэлект" палачанін Дзмітрый Вільковіч аказаўся ў тройцы прызёраў. Навучэнец Полацкай гімназіі №2 захапляецца праграміраваннем не першы год. З пятага класа большую частку свайго часу хлопец праводзіць за камп'ютарам, таму і поспех у конкурсе быў чаканым. Прычым, Дзмітрый, у адрозненне ад многіх, займаецца не камп'ютарнымі гульнямі, а працуе над складаннем праграм. У намінацыі "Інфармацыйныя сістэмы і тэхналогіі" ён быў узнагароджаны дыпломам ІІІ ступені.

– Кожнаму ўдзельніку патрэбна было напісаць і прэзентаваць праект, - расказвае гімназіст аб прайшоўшай навуковай канферэнцыі. – Я напісаў свой сервер, г. зн., стварыў праграму, якая дазваляе раздаваць файлы. Такая схема дае мноства прывілей, пачынаючы ад звычайнай рассылкі школьнага раскладу на тэлефон і заканчваючы шыфраваннем дадзеных у дзяржаўнай сферы.

Сваю будучыню хлопец бачыць у ІТ-сферы, якая сёння папулярная і прыбытковая. Перша-пачатковыя дадзеныя ў гімназіста ўжо ёсць, зараз ушчыльную займаецца вывучэннем англійскай мовы, без якой праграмісту нікуды. Па словах гімназіста, 8-10 гадзін у дзень за камп'ютарам – гэта яго звычайны рэжым. Крыўляцца яму няма калі і няма жадання. Хоць у Дзімы застаецца і вольны час.

– Галоўнае, добра спланаваць свой дзень, - гаворыць ён. – Я працую за камп'ютарам, гуляю ў баскетбол, сустракаюся з сябрамі. У мяне няма ніякіх асаблівых абмежаванняў. Я не вундэркінд. А проста чалавек, які многа часу выдаткоўвае на сваю прафесію. Некалькі гадзін за камп'ютарам праводжу ў гімназіі, затым прадаўжаю працу дома.

Яшчэ два гады Дзіму вучыцца ў гімназіі, але над выбарам універсітэта ён ужо задумваецца. Прызнаецца, што гэта будзе ВНУ Мінска або Санкт-Пецярбурга, дзе ўжо вучацца выпускнікі Полацкай гімназіі. Поспех у прафесіі, па меркаванню гімназіста, перш за ўсё залежыць ад асабістага працалюбства.

Настаўнік інфарматыкі Аляксандр Цагельнікаў лічыць, што ўзровень, які на сённяшні дзень паказвае Дзіма, больш чым высокі. Ва ўніверсітэце ў яго не будзе ўзнікаць складанасцяў у вучобе. Ён вельмі працалюбівы хлопец, якога патрэбна толькі скаардынаваць, а далей ён ужо будзе працаваць самастойна. Летам будзе займацца пошукам новых праектаў, восенню, а можа і раней, пачнецца падрыхтоўка да чарговага конкурсу. Гэта юны талент, які раскрыў Аляксандр Цагельнікаў, а потым прабудзіў, развіў і прадаўжае развіваць гэты талент на прыкладанне да справы і атрымоўвае самыя цудоўныя вынікі.

Калі Прэзідэнт А.Г.Лукашэнка гаварыў аб аказанні дапамогі маладым талентам, я ўпэўнены ў тым, што ён меў на ўвазе, менавіта, таленты такога напрамку, а не шоў-бізнас і ўсемагчымыя крыўлянні. Я паклоннік, менавіта, такіх талентаў, якія робяць патрэбных і карысных грамадству высокакваліфікаваных спецыялістаў.

Як тут не пагадзіцца з акторам Аляксандрам Міхайлавым, які лічыць, што: "Зараз творыцца штосьці неймавернае. Усе гэтыя бясконцыя шоў нагадваюць мне рымскую імперыю з яе дэвізам: "Хлеба и зрелищ". На тэлебачанні культ розных танных забаў і яды, там толькі кулінарныя "испражнения", я па-іншаму не магу гэта назваць. Складваецца ўражанне, што жыццё складаецца толькі са жратвы і ўцех... Я ўспамінаю ўвесь час выказванне Г. Горына: "Усміхайцеся, панове, усміхайцеся!" Усміхайцеся! Разумееце? Не хахачыце да паўсмерці, не захлынайцеся ад хохату і плясак, а ўсміхайцеся! А што гаворыць Дорн у чэхаўскай "Чайцы"? Ён гаворыць: "Усё цудоўнае – сур'ёзна!" Ах, як гэта мудра! Вось у чым закладзена аснова. У гэтым – сутнасць жыцця. Так, гумар ратуе. Гумар зберагае ад інфаркта, ад стрэсавых сітуацый. Але калі хохму і анекдоты мы ставім галоўнымі, пахабшчыну, якую называюць сэксуальнай рэвалюцыяй, піхаем усюды, то гэта катастрофа".

Таленты, сапраўдныя таленты – гэта адна з умоў нашага ўратавання!

## У Мінэканоміку пакуль не каментуюць сітуацыю са спыненнем працы прадпрымальнікамі з-за ўказа № 222

■ Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**Міністэрства эканомікі Беларусі пакуль не каментуе сітуацыю са спыненнем працы індывідуальных прадпрымальнікаў, заявіў БелаПАН прэс-сакратар міністэрства Віктар Еўтухоў.**

Ён толькі зазначыў, што Мінэканомікі не з`яўляецца ні распрацоўшчыкам, ні рэалізатарам нормаў указа Прэзідэнта №222 "Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі", з-за якога ІП прыпынілі сваю дзейнасць.

Указ набыў моц 1 студзеня 2016 года. З гэтага часу ІП павінны рэалізоўваць прадукцыю легпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з суправаджальнымі дакументамі. Праблема ў тым, што расійскія пастаўшчыкі, у якіх закупляюць тавар большасць беларускіх ІП, як правіла, адмаўляюцца выдаваць дакументы аб паходжанні прадукцыі альбо даюць фіктыўныя даведкі. У выніку ІП плацяць штрафы, у іх канфіскуюць тавар.

У падтрымку ІП выступіла бізнас-супольнасць. 9 снежня Беларускі саюз прадпрымальнікаў, Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва і Мінскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў накіравалі ліст намесніку міністра эканомікі Ірыне Касцевіч. У лісце выказвалася заклапочанасць пытаннямі прымянення ўказа №222, а таксама ўказа №48 "Аб мерах па забеспячэнні дзяржаўнага кантролю (нагляду) за выкананнем патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў". Прадстаўнікі бізнас-саюзаў прапанавалі Мінэканомікі ініцыяваць зварот у Вярхоўны суд з просьбай правесці спецыяльны пленум і прааналізаваць практыку разгляду судамі спраў аб канфіскацыі тавараў у ІП, якія гэтыя тавары добрасумленна набывалі.

Гэтая прапанова, як і шматлікія просьбы ІП да ўладаў адмяніць указ №222, пачутыя не былі. У выніку ў першыя дні новага года ў Мінску і іншых гарадах Беларусі многія рынкі і гандлёвыя цэнтры апынуліся практычна пустымі – пераважная большасць ІП прыпынілі сваю працу з-за немагчымасці выконваць новыя патрабаванні заканадаўства.

## Усміхніцеся

Приближаются новогодние праздники. Мужик, находящийся в командировке, решил отправить жене подарок.

Она получает посылку, открывает ее, а в ней – колготки, на одной «ноге» которых написано «с Новым Годом», а на другой – «с Рождеством». Тогда жена отправляет мужу телеграмму следующего содержания:

«Спасибо за подарок. Надеюсь, ты приедешь повидать меня между двумя праздниками».

***

Собака просит хозяина в Новый Год:

– Пусти меня погулять.

– Нет, не пущу. Опять напьешься…

– Ну, пусти, не напьюсь, честное слово.

– Не… Напьешься, напьешься.

– Да нет хозяин, не напьюсь. Гадом буду, не напьюсь!

– Ну, иди…

Одинадцать – нет. Двенадцать – нет. Час – нет. В два – звонок в дверь. Хозяин:

– Ну, что, напился?

– Да нет, ну давал же слово!

– А ну, пролай!

– Лай-лай-лаа-лааааа…

***

Сын спрашивает у матери-одиночки:

– Мама, мама, а кто мой папа?

– Дед Мороз! – зло отвечает мама.

– Как это? – удивляется мальчик.

– Пришел ночью, сделал подарок и больше его никто не видел.

***

Американцы придумали новый суперкомпьютер с искусственным интеллектом. Однако, компьютер завис, задымился, а потом и вовсе окончательно сломался при попытке перевести диалог на русском языке:

– Ты будешь отмечать Старый Новый Год?

– Да нет, наверное...

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зерноочистительная машина | | Коллектив | | | | | | |
| Стадион в Москве | | Порт на Северном море | | Народность в Индонезии | | Наряд (устар.) | | Район Москвы |
| | | | | | | Старинное еврейское блюдо | | Болотная птица |
| Мотоциклетная дисциплина | | Дворянский титул | | | | | | |
| | | | | | И ветла, и верба, и ракита | | | |
| | Басня Ивана Крылова | | Декоративное растение | | Соль щавелевой кислоты | | | |
| | | | | | | | Эпидемия | |
| | Результат деления | | Отросток нервной клетки | | | | | |
| Галоген | Спутник Сатурна | | | | | Азербайджанский суп | Полевое укрытие | |
| Куча сена | | Револьвер | | Огромный змей в егип. мифологии | | | | |
| | | | | Лицо (устар.) | | | | Музыкальный звук |
| ... редьки не слаще | | Ученый | | | | | | |
| | | | | Жилище индейцев Северной Америки | | | | |

**Ответы на сканворд № 53**

**По горизонтали:** Грогги. Салями. Сатрап. Бакен. Ушр. Био. Евтерпа. Ерика. Доде. Скос. Вилы. Лом. Стакан. Парк. Вано. **По вертикали:** Прага. Глясе. Отит. Гамаши. «Манфред». Рубаи. Прованс. Буер. Катод. Преслав. Обыск. Пила. Кока. Оман. Но.

## Гараскоп на Новы 2016 год

**АВЕН.** Для таго, каб прыцягнуць навакольных да рэалізацыі ўласных задач, скарыстайцеся сваім дарам пераканання. Паспрабуйце назапасіцца цярпеннем, інакш у сярэдзіне тыдня будуць непазбежныя сваркі з блізкімі людзьмі. Пажадана ахаваць сябе ад непатрэбных кантактаў. Скарыстайцеся выпадкам у канцы тыдня, каб праявіць сябе з лепшага боку перад каханым чалавекам. Аднак памятайце, што ваша празмерная падатлівасць можа прывесці да таго, што з вашым меркаваннем перастануць лічыцца. Так што паспрабуйце не перашчыраваць.

**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні вы можаце дасягнуць вялікіх поспехаў пры рэалізацыі тых задач, якія дыктуюцца імгненнай неабходнасцю. Толькі пазбягайце паспешлівасці, рабіце ўсё, калі не па вызначаным загадзя плане, то хаця б паслядоўна. Памятайце, што змены, якіх вы так доўга чакалі ў асабістым жыцці, не наступяць без вашых рашучых дзеянняў. Вельмі карысна раіцца з сябрамі і часцей выходзіць у свет. Новыя знаёмствы могуць згуляць важную ролю ў вашым жыцці. Але пазбягайце паспешлівых высноў.

**БЛІЗНЯТЫ.** Разлічвайце толькі на свае сілы, прыйдзецца з галавой акунуцца ў паўсядзённыя справы. У другой палове тыдня ёсць перспектыва ўдалага і выгаднага знаёмства. Паспрабуйце выкарыстоўваць сітуацыю сабе на карысць. Шмат увагі на гэтым тыдні прыйдзецца надаць дзецям, асабліва, калі яны - падлеткі. Не выключана, што да вас нечакана наляцяць сваякі, а вашым бацькам раптам спатрэбіцца ваша дапамога, скажам, у рамонце дома.

**РАК.** Намаганні на гэтым тыдні пажадана накіраваць на захаванне раўнавагі з навакольным светам. Выніковасць, перш за ўсё, будзе залежаць ад самавалодання і самадысцыпліны. Нешта няўлоўнае зменіцца ў сярэдзіне тыдня, і жыць стане значна прыемней і спакойней. А непаразуменні, якія паўстануць у другой палове тыдня, хутка ўладзяцца і не паўплываюць на добры зыход справы. У канцы тыдня зрабіце вясёлую вечарынку для сяброў.

**ЛЕЎ.** Вам пашанцавала, вы акружаныя людзьмі, якія гатовыя шмат што зрабіць для вас і разам з вамі. Першая палова тыдня ўдалая для паездак і падарожжаў, рамонту і пераездаў, але пры гэтым вам спатрэбіцца такія якасці, як цярпенне, стрыманасць і разважлівасць. Верагодна паступленне новай інфармацыі, якая асабліва зацікавіць вас. Другая палова тыдня будзе спакайнейшай і больш гарманічнай.

**ПАННА.** Дайце свабоду свайму творчаму «я», не перашкаджайце выдатным парывам. Тыдзень святочны,таму ім знойдзецца прымяненне. Вас чакае духоўны рост і самаўдасканаленне, праўда, для гэтага спатрэбіцца некаторыя намаганні з вашага боку. З другой паловы тыдня ў справах будзе назірацца некаторае зацішша, гэта час для адпачынку і паслаблення. Рэалізуюцца ўсе свае ідэі, звязаныя са святам, і вы адчуеце, як энергія б'е ключом.

**ВАГІ.** На гэтым тыдні добры настрой і душэўны ўздым дазволяць вам хутка і лёгка вырашыць складаныя пытанні. Зараз удалы час, каб заняцца вывучэннем моў, музыкі, запісацца на лацінаамерыканскія танцы. У канцы тыдня не імкніцеся асягнуць неабсяжнае, так як жаданне перарабіць адначасова вялікую колькасць спраў можа прывесці даператамлення і нервовых зрываў. Канец тыдня - вельмі ўдалы час для пачатку новых праектаў.

**СКАРПІЁН.** На гэтым тыдні вам прыйдзецца пабыць дыпламатам у адносінах да навакольных людзей, не варта ўрывацца ў іх унутраны свет без запрашэння. У першай палове тыдня занадта хуткае выкананне вашых жаданняў павінна насцярожыць, хутчэй за ўсё, яно не абяцае вам нічога асабліва добрага. Не выключана, што вас проста завабліваюць у пастку. Другая палова тыдня можа апынуцца прыдатным момантам для станоўчых пераменаў у асабістым жыцці.

**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні асабліва ўдачлівыя будуць тыя, хто праявіць упартасць у пошуку новых сфер для прымянення сваіх талентаў. Усё абавязкова атрымаецца, вы на верным шляху, але не варта чакаць, што жыццё здасца ідэальным ужо да канца тыдня. Хутчэй наадварот - у вас будзе залішне шмат працы, і могуць з'явіцца шкадаванні аб тым, што вы ўзвалілі на сябе ўсё гэта. У другой палове тыдня вам спатрэбіцца дапамога навакольных у вырашэнні фінансавых праблем. У выхадныя дні паспрабуйце стварыць дома максімальна гарманічную атмасферу і ўтульнасць.

**КАЗЯРОГ.** У першай палове тыдня варта настроіцца на актыўныя зносіны, выступ перад масавай аўдыторыяй прынясе вам поспех і павысіць ваш прэстыж. У пачатку тыдня на вас наваліцца снежным камяком дробныя нязначныя справы. У канцы тыдня магчымы некаторы спад настрою, не паддавайцеся нудоце, вы цалкам можаце дамагчыся поспеху ў каханні, працы, творчасці.

**ВАДАЛЕЙ.** Магчымыя пэўныя цяжкасці, перад якімі не варта адступаць. І тады перамога вам гарантавана. Зараз лепш абапірацца на правераныя метады, а нестандартныя падыходы выкарыстоўваць толькі як дадатак. Добры час для падвядзення пэўных вынікаў і для адпачынку. Памятайце, што, змяняючы сваё ўспрыманне, вы можаце змяніць і навакольны свет.

**РЫБЫ.** Пачатак тыдня прынясе Рыбам рамантычны настрой. Аднак вы рызыкуеце пагрузіцца занадта глыбока ў бездань ілюзій і выдаць жаданае за сапраўднае. У сярэдзіне тыдня наадварот, цалкам рэальны свет апынецца ў вашых ног - варта толькі як след гэтага захацець і крыху дзеля гэтага папрацаваць. Другая палова тыдня нядрэнна падыдзе для пераменаў у вонкавым аблічы і, калі такое наогул магчыма, у манеры паводзінаў.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 05.01.2016 г. у 20[50]
Наклад 1200 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова 8

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае